

Сярод іх прыбыло некалькі сем'яў рэпатрыянтаў...

Вясна красна.

Фота — Л. Карадзейскі

# НА ГРАНІЦЫ

Штодзень у гадзіны прыбыцця і адыходу цягнікоў у абодва бакі пероны маленькай кузніцкай станцыі запаўняюцца рознымі падарожнікамі. Акрамя палякаў і грамадзян Савецкага Саюза, якія едуць у госці да сваякоў і знаёмых, альбо ў мэтах турыстычных, зусім нярэдкімі госцьмі на пероне чыгуначнага вакзала ў Кузніцы з'яўляюцца чужаземцы. Зразумела, найбольшую сенсацыю выклікаюць сярод мясцовага насельніцтва чорныя, як гэбан, самыя сапраўдныя негры.

Асаблівую атракцыю прадстаўляюць яны для дзяцей, якія доўга і неадступна праводзяць гэтых нештодзённых гасцей.

Трэба падкрэсліць, што Кузніца з'яўляецца досыць ажыўленым пагранічным пунктам. На працягу амаль двухгадовага існавання Тамажнага Упраўлення ў Кузніцы граніцу ў абодва бакі пераехала каля 60 тысяч чалавек.

* * *

Нядаўна мы наведалі Кузніцу. Прыехалі якраз тады, калі змена тамажнікаў чакала на пероне прыбываючага цягніка з СССР.

І вось праз некалькі хвілін чакання на станцыю ўязджае сапучы паравоз з чырвонай зоркай. З вагонаў пачалі высаджвацца пасажыры. Сярод іх прыбыло некалькі сямей рэпатрыянтаў. Але большасць — гэта, аднак, турысты.

Пагранічнікі лоўка і хутка праверылі дакументы. Цяпер чарга на тамажнікаў. Апошнія з прыемнай усмешкай на губах, але тым не менш вельмі дакладна, правяраюць багаж. Аказалася, што ніводзін з турыстаў не аказаўся сёння спекулянтам.

* * *

Аднак такіх «кветачак» — спекулянтаў бывае многа, вельмі многа як даведаліся мы з апавяданняў тамажнікаў.

А ёсць іх найбольш з Узбярэжжа і Кракаўскага ваяводства. У СССР яны вязуць перш за ўсё матэрыялы, а потым... панчошкі! Дзесяткі, нават сотні панчох намагаюцца перавезці без пошліны праз граніцу. Адзін варшаўскі студэнт, напрыклад, абкруціў сябе 500-амі парамі панчох.

Яго штучная туша адразу кінулася ў спрактыкаванае вока тамажніка. Панчошкі (як тлумачыў студэнт, гэта мелі быць падарункі для яго сяброўак) былі канфіскаваны.

Улюбёным спосабам перавозу спекулянтамі недазволеных рэчаў з'яўляецца падвойнае дно ў чамадане.

Аднак гэтая форма ўжо не знаходзіць многа наследоўнікаў, бо наперад вядома, што нічога добрага з гэтага не выйдзе. Чуткі нос тамажніка хутка «вынюхае» такую махінацыю.

А бывае і інакш. Хопіць толькі пацягнуць за нітку ў спадніцы і... цуда! Ад вялікай з фалдамі спадніцы, якая вязецца на «змену» (чытай — на замену), не застанецца і следу, акрамя некалькіх метраў цудоўнай тафты.

Адным з найбольш дасціпных метадаў спекуляцыі з'яўляецца перавозка матэрыялаў пры дапамозе дзяцей.

Бацькі абкручваюць цела малых сваімі матэрыяламі, так што тыя выглядаюць больш шырокімі, чым высокімі.

У такіх выпадках рэвізія ў дзіцяці неабходна. Вынік яе — перапуджанае дзіця, у душы якога, напэўна, застанецца трывалы след ад мамінай альбо татавай прадпрыемлівасці.

Нічога, аднак, не ўцячэ ад зоркага вока тамажніка. Тавар канфіскуецца, а спекулянт да таго яшчэ плаціць кару, ды неаднойчы ў чатыры разы вышэйшую за вартасць канфіскаванага тавару.

(Г)

# З'ездавыя абавязацельствы на Гайнаўшчыне

**Папулярныя на Гайнаўшчыне дарожныя абавязацельствы ў дні З'езду ахапілі амаль усе вёскі павета. Паводле недакладных яшчэ аблічэнняў, кошт прац, выкананых да гэтага часу пры пабудове і рамонце дарог у гонар III З'езду партыі, налічвае больш 500 тысяч злотых.**

А вось і прыклады:

Жыхары вёскі Чараў грамадскім чынам выканалі працы пры будове дарогі (680 метраў) вартасцю ў 65 тысяч злотых; жыхары вёскі Макаўка адрамантавалі дарогу на трасе Макаўка — Даратынка на суму 45 тысяч злотых; жыхары Белавежы — на суму каля 11 тысяч злотых.

На тэрыторыі ГРН Альхоўка пабудаваны да гэтага часу 250-метровы ўчастак жвіравай дарогі на трасе Альхоўка — Нараўка на суму 35 тысяч злотых, а сяляне Тынявіч Вялікіх выбрукавалі ў вёсцы вуліцу на суму каля 11 тысяч 300 злотых. Жыхары вёскі Койлы выканалі працу пры будове дарогі на агульную суму каля 15 тысяч злотых, а сяляне вёскі Катоўка (ГРН Дубіны), будуючы 100-метровы ўчастак дарогі, далі дзяржаве 25 тысяч злотых.

Такіх прыкладаў можна было б прывесці вельмі многа. З'ездавы чын ахапіў таксама і гайнаўскія прадпрыемствы. Агульная вартасць доўгатэрміновых абавязацельстваў гайнаўскіх прадпрыемстваў у гонар III З'езду партыі аблічваецца сумай 7.743.000 злотых.

У дні З'езду асабліва шырока разгарнуўся збор грашовых складчын на пабудову новых школ. Асабліва трэба падкрэсліць ініцыятыву мастацкага калектыву ў Чыжах. 15 сакавіка яны выступілі з канцэртам у сваёй вёсцы. Даход ад канцэрта ў суме 700 злотых пераказаны на пабудову школы.

Таксама зрабіла моладзь з самадзейнага мастацкага калектыву ў Кляшчэлях. У гонар III З'езду жыхары школьнай акругі Навасады звезлі на працягу некалькіх дзён 100 кубічных метраў жвіру і пяску на будову школьнага сталыё на Вартасць гэтых работ ацэньваецца амаль у 3 тысячы злотых.

У адну з апошніх нядзель у Гайнаўцы да працы прыступілі калектывы драўлянага прадпрыемства лясной прамысловасці і прадпрыемства чыгуначных работ. Вартасць іх працы ў гэты дзень выказваецца сумай 28 тысяч злотых, з якіх 6 тысяч 315 злотых пераказана на конта Павятовага Камітэта будовы школ. Прадпрыемства сухой дыстыляцыі дрэва пераказала гэтаму камітэту 9 тысяч 184 злотых, а гайнаўскае прадпрыемства машыннай і лясной прамысловасці — 2.130 злотых.

Ёсць таксама шмат індывідуальных ахвярадаўцаў, як, напрыклад, Юзэф Анішчук, працаўнік прадпрыемства лясной прамысловасці, які пераказаў на конта Камітэту будовы школ 200 злотых.

У дні З'езду на конта Павятовага Камітэта будовы школ усяго з Гайнаўшчыны паступіла 57 тысяч 180 злотых.

(м)

ЧЫТАЧ! Што ты зрабіў, каб павялічыць падпіску на «Ніву»?

Пастарайся, каб і твае суседзі чыталі наш часопіс.

Прыпамінаем, што падпіску на «Ніву» на месяц май можна зрабіць да 15.IV 1959 года.

Cena 60 gr.

Цана 60 гр.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 14 (162) БЕЛАСТОК, 5 КРАСАВІКА 1959 года ГОД IV

# Літоўскае вяселле



Маладыя людзі зазвычай самі знаёмяцца, самі з сабою дамаўляюцца аб вяселлі, аднак у многіх кутках нашай краіны захаваўся яшчэ звычай сватаўства.





Увайшоўшы ў хату свайго мужа маладуха завешвае ў кутку пакоя белы ручнік — сімвал ладу, парадку, чысціні, як і таго, што яна будзе тут гаспадыняй.



Вось, напрыклад, як адбываецца, яшчэ сёння, вяселле ў літоўцаў з аколіц Пунска ў Сейненскім павеце.

Нявесце, гэта значыць маладусе, вельмі цікава ведаць, што гавораць бацькі з маладым, аднак, згодна са звычаем, яна павінна сядзець за печам.



У дзень вяселля дружкі з самай раніцы прычапляюць «кветкі» сваім дружбантам.

Але вось ужо і час ехаць да шлюбу. Сванька абавязкова садзіцца ля маладухі і супакойвае яе.



Вясельнай моладзі самае важнае — забава. Малады і маладуха ідуць у першую пару. За імі дружкі і іншыя. Гэтак гуляюць да позняга вечара. Літоўцы найахватней бавяцца на свежым паветры.

Пасля заручын дзяўчына ходзіць задумана, сумная, у чапцу на галаве. Па гэтым чапцу — «гālёнас» — усе пазнаюць, што гэта яе апошняя нядзеля... Дзяўчына туліць да сэрца белыя кветкі і думае ад будучым жыцці

Апошні дзень перад шлюбам у хаце жаніха весела гамоняць дружкі. Яны ўюць вянкі, спяваюць усялякія песні, прыпеўкі і сумныя, поўныя тугі песні.





Пасля шлюбу адбываецца гасцяванне. Мусіць ва ўсім свеце так ёсць, што на вяселлі гарэлка раптам робіцца горкай...

— Ой, як жа мне яго пацалаваць... пры ўсіх?...



Позна ноччу маладыя ідуць на адпачынак. Ды што гэта? У спальні, на іх ложак паваліліся двух баламутаў.

У літоўцаў такі звычай, што маладыя мусяць выкупіць сваё месца сама менш... бутэлькай.

Цікава адбываюцца літоўскія вяселлі. І моладзь і старэйшыя бавяцца, спяваюць, весяляцца. Па сённяшні дзень захавалася шмат характэрных абрадаў звязаных з гэтай урачыстасцю.

І я там быў, мёд і віно піў, разам з імі гуляў. А, што ўбачыў, тое вам перадаў.

І. РЫБІНСКІ.

# Квадрат „Б-52"

(Працяг са стар. 5)

— Гэй, хлопец, з віном заходзь да нас на ферму. Вечарам гармонік будзе, патанцуем!—звонка крыкнула яму ўслед усё тая ж таўсцячка.

— Добра, заглянем! — у тон ёй адказаў дыверсант і, уздыхнуўшы, закрочыў у бок прасёлачнай дарогі.

Да Навагрудка ён не дайшоў. На дарозе наткнуўся на нейкую невядомую вёсачку хат у дваццаць. У цэнтры яе, там, дзе валяліся абломак жорнаў, іржавае трактарнае зубчатае кола і ў зямлю быў укапаны пусты торфугаскі — след даўно прайшоўшай вайны, — Фін убачыў сельпо. Дзверы былі адчынены, і ён, пераступіўшы па чыста вымытаму ганку, увайшоў у прахладную лаўку.

У сельпо было пуста. Прадаўшчыца, уважліва агледзеўшы незнаёмага ёй хлопца, працягвала нешта прыкідваць на лічыльніку. Фін доўга разглядаў паляжалыя танныя цукеркі, сухую гарбуху швейцарскага сыра, пакрытыя пылам груды ватовак і кавалкі нейкага таўшчэзнага сукна.

— Гарэлка ёсць? — запытаў ён нарэшце.

Прадаўшчыца моўчкі кіўнула галавой. Фін узяў дзве бутэлькі гарэлкі, кілаграм цукерак і некалькі пачак «Беламора». Хлеба ў сельпо не было, і ён купіў тры пачкі пячэння.

— Сала ёсць?

Прадаўшчыца яшчэ раз уважліва паглядзела на яго і такжа моўчкі, але ўжо адмоўна матнула завітушкамі.

— Вы з вырубак? — пацікавілася яна.

— Адтуль...

— Дык у вясковых пашукайце! Трэцяя хата ад краю, запытайце Дар'ю Канцэвіч. У іх нядаўна сына ў армію праводзілі, паршука закалолі. Магчыма, і засталося што на вашу долю. З вас восемдзесят два сорак...

Фін намацаў у кішэні хруснуўшую сторублёўку і працягнуў прадаўшчыцы грошы. Дзяўчына прыняла яе і, адвярнуўшыся да вакна, глянула на прасвет. «А калі далі і грошы фальшывыя...» — трывожна падумаў Фін, глянуўшы на адчыненыя дзверы.

Але прадаўшчыца спакойна палажыла сторублёўку ў скрыню ад масла, адлічыла здачу і на развітанне паўтарыла:

— Дык вы ўсё ж зайдзіце да Дар'і, можа і дастанеце сала...

Фін ішоў па вёсцы, і ніхто навокал не падазраваў, што ён тут чужы і вораг усім гэтым мірным, спакойным і простым людзям. І дзяўчатам з фермы, якія запрашалі яго на вечарынку, і той у сельпо з завіўкамі і незнаёмай яму Дар'і Канцэвіч. Яна прадала Фіну два кілаграмы салонага сала, старанна зважыўшы яго на старым бязмене, напаіла малаком з лёду і доўга ахвотна расказвала аб тым, як падніматся ў іх калгас пасля вайны, як цяжка было спачатку, як цяпер моцны дастатак уваходзіць у кожную калгасную хату. Гаспадыня ўзяла грошы толькі за сала і калі ўбачыла, што хлопцу няма ў што злажыць пакупкі, дастала чыстую паркалёвую торбачку.

— У другі раз тут будзеш — занясеш. Прыходзь часцей! У нядзелю дзяўчаты прыедуць з фермаў, песні будуць спяваць, танцаваць.

— А сёння які дзень?

— Пятніца.

«Сёння ж трэба з'явіцца на сувязь!» — успомніў Фін, і добры настрой, якім жыў ён апошнія дзве гадзіны, адразу прапаў. Развітаўшыся з гаспадыняй дыверсант накіраваўся да лесу, і чым далей ён адыходзіў ад жылля, тым больш смутна станавілася ў яго на душы.

У зямлянку ён прыйшоў з невялічкай, акуратна запакаванай рацыяй. Усе наспех закусілі, і, выпіўшы шклянку гарэлкі, Фін панура сказаў.

— Пара за работу.

Касцюкевіч і Пакроўскі круцілі ручку «салдат - матора» генератара. Фін доўга выстукваў ключом. Калі скончыў, сказаў:

— Маўчаць, гады, а сёння ж дзень сувязі.

Вечарам ён пайшоў і забараніў ісці з ім. Касцюкевіч і Пакроўскі і на гэты раз нічым не выдалі сябе і засталіся ў зямлянцы. «Ён не давярае — не будзем і мы выклікаць непатрэбнай трывогі», — вырашылі сябры.

(Працяг у наступным нумары)




# КУЛЬТАСВЕТА

Вядомая справа, культработа ў вёсках сонная: ці то актыву бракуе, ці то ў людзей пораху — сказаць цяжка.

А вось у нашай вёсцы, дзякуй богу, культурна-асветная праца расце, як на дражджах, дзякуючы дзейнасці каменданта пажарнай каманды. Хаця мы не маем вясковага клуба, але культработа прытулілася ў нас у пажарным дэпо.

Некаторыя чытачы могуць скрывіць нос, даведаўшыся, што ў нас пажарныя папісваюцца на культурнай ніве. Але, прыняўшы пад увагу, што ў пяцігодцы не было ніводнага пажару (нават сажа не загарэлася ні ў якой трубе), а ў людзей ужо даўно загарэўся сум па культурных разрыўках, дык стане ясна, чаму пажарнікі заняліся гэтай справай.

Зразумела, пажарная каманда без трубача не мае эфекту і ўрачыстасці, дык на наша шчасце трубач знайшоўся і разам з гарманістам працуе ў якасці аркестра.

Штомесяц у пажарным дэпо арганізуюцца танцавальныя вечарыны, квітнее пад апекай камендантшы буфет з выпіўкай і крутымі яечкамі.

У такі вечар выпадковы чалавек яшчэ ў вясковай аколіцы пачуе баявыя гукі аркестра і няскладны харавы спеў — гэта каля буфета падвыпіўшыя галасы спрабуюць арганізаваць харавы гурток.

На культурным ліку ў першым квартале ў нас дасягненні не малыя: пятнаццаць шыбаў выбіта, тры плоты павалены, восем асоб часова выйшлі з працоўнага строю (з-за «лёгкага» пашкоджання чалавечага механізма).

Сакратар звяна вясковай моладзі неяк выказаўся за ліквідацыю вечарынак у дэпо, камендантшу абазваў кабатчыцай і даказваў, што дэпо пастаўлена з супроцьпажарнай мэтай, а не для прытулку п'яніц.

А цяпер сакратар ходзіць з ліхтарамі пад вачыма. Іх яму наставілі за несвядомыя адносіны да культурнай працы.

Можа знойдуцца чытачы, якія крытыкуюць наш культгурток, але вядомая справа — усім не дагодзіш.

Для вясковай культработы ў нас яшчэ планаў не склалі, таму ініцыятыва на месцах мае шырокую ніву. А пры жаданні папрацаваць на культурным фронце, кожны цярплівы грамадзянін зможа навучыць і зайца іграць на трубе.

*Дзядзька Лявонь.*

# ХРАБАЛОЎСКІЯ ЧАСТУШКІ

У Храбалах стаіць святліца
На сярэдзіне сяла,
Але гэтую святліцу
Мыш хвастом не замяла.

На падлозе поўна грязі,
І на сценах такі стан,
Дзе ні кінеш, браце, вокам —
Беспарадак, балаган.

Стол ляжыць ўгару нагамі,
Ён пабіты, інвалід,
Гаварыўшы паміж намі —
Ад свавольства ён пагіб.

Пры другой сцяне тры крэслы,
Усе пабіты, як адно,
А на трэцяй «па-мастацку»
Граззю ўмазана акно.

Як аблуплены сабака —
Від чацвертае сцяны.
Эх, ты клуб мой, небарака,
Дзе ж апекуны твае?

Моладзь, я вас папрасіў бы:
Не саромце вы людзей,
А зрабіце там парадак
Без адкладу, як хутчэй.

Кіньце, хлопцы, назаўсёды,
Самагоначку хляптаць.
Можна жыці больш прыемна
І сябе не марнаваць.

Лепш наладзьце пастаноўку
Ў сваёй вёсцы і ў другіх,
Вам за гэта будзе слава
І падзяка ад усіх.

ЯНКА

# Са старога беларускага гумару

У адной вёсцы абралі людзі старасту. Такая высокая пасада настолькі ўскружыла галаву новаму старасту, што да яго страшна было падступіцца. Па вёсцы стараста хадзіў, як кажуць, задраўшы нос, і патрабаваў, каб яму кожны абавязкова даваў аб сабе падрабязную справаздачу.

Сядзіць аднойчы стараста на прызбе свайго дома і бачыць: ідзе нехта ў канцы вёскі.

— Бяжы хутчэй, — загадаў стараста свайму сыну, — і даведайся, што гэта за птушка ходзіць па маёй вёсцы.



Сын, як апантаны, кінуўся да яго з крыкам.

— Што табе трэба? — спытаўся здзіўлены падарожнік.

— Тата сказалі, каб я даведаўся, што вы за птушка, што ходзіце па нашай вёсцы?

— Скажы свайму тату, — азваўся падарожнік, — што ён такі ж дурань, як і ты.

— Ну што? — спытаўся стараста, калі вярнуўся сын.

— Ды гэта, тата, наш стары знаёмы. Ён добра ведае і мяне і вас.

— А што ён сказаў?

— Сказаў, што вы такі ж дурань, як і я.

* * *

— Ці быў на базары?
— Быў.
— Што ж ты купіў?
— Казу.
— Колькі заплаціў?
— Сем капеек.
— А дзе ж каза?
— Прадаў.
— Колькі ўзяў?
— Пяць капеек.
— Навошта ж ты так патраціўся дарэмна?
— Нічога, што патраціўся, абы была свежая капейка.



— Паслухайце, чаму вы мне далі рэшты толькі 12 лей замест 13?
— Ах, прабачце: я думаў, што вы верыце ў забабоны...

(З румынскага гумару)

# Усякая ўсячына

## Шахта-аўтамат

У вялікай шахце вугалю каля Караганды (Казахская ССР) мае быць праведзена аўтаматызацыя працы. Усе работы будуць выконвацца дыстанцыйна кіраванымі машынамі. Інжынеры, якія знаходзяцца паверх шахты, пры дапамозе спецыяльных апаратаў будуць сачыць за працай машын і кіраваць імі.

## Горад пад вадой

Савецкія вучоныя адкрылі руіны старажытнага горада, які існаваў 2000 гадоў таму назад. Руіны ляжалі 25 метраў пад вадой, на дне Чорнага мора. Знойдзена многа прадметаў з дрэва і іншых арганічных матэрыялаў, якія добра перахаваліся ў салонай вадзе і з'яўляюцца ўнікатамі.

## Золата прапала

Сто год шукалі англічане затопленага карабля Біркенгер, на якім мелася быць везеным золата ў штабах. Затоплены карабель знойдзены, але па золаце ў ім і следу не засталося

## Таксама рэкорд

Мільён разнавідных жучкоў сабраў малады даследчык насякомых Леў Мядзведзеў з Сібіры. Ён пачаў збіраць насякомыя, будучы яшчэ малым хлопчыкам. Пасля абменьваў калекцыю з іншымі даследчыкамі розных краін.

У зборы знаходзяцца жукі з Паўднёвай Амерыкі даўжынёй у 30 сантыметраў з панцырамі, якія вытрымоўваюць цяжар чалавека. Мядзведзеў выкрыў 30 невядомых дагэтуль відаў жукоў і напісаў 6 навуковых прац.

## Лятаючы аўтамабіль

Савецкі інжынер Маралевіч працуе над канструкцыяй лятаючага аўтамабіля, які неўзабаве будзе выпрадукаваны. Ён будзе рухацца пры дапамозе двух прапелераў, падобных на тыя, якія ёсць у верталёце. Ён зможа з месца падымацца ў паветра і прызямляцца на адно месца, на асобыя падпоркі. Таму ён не патрабуе колаў.

# АДГАДАНКА

а а а в з і к
к л м о о п р

З пададзеных літар складзіце загаловак апавядання вядомага беларускага празаіка М. Лынькова.

Сярод чытачоў, якія прышлюць да 25.IV. г. г. правільныя развязкі, будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод.

## Развязка адгаданкі з № 10 (158) „Нівы"

Чытачы прыслалі 173 правільныя развязкі. Паасобныя словы: лета, Янка, вада, Орля, Ніва, Ірак, хата, арол.

З першых літар гэтых слоў атрымалася назва папулярнага беларускага танца — «лявоніха».

Узнагароды вылясавалі:

1. Жэня Гегель — Зубры, Беластоцкі павет.
2. Юля Каспрук — Тымянка, Сямяцкі павет.
3. Пятро Грыцук — Камінск, Ольштынскае ваяв.
4. Клаўдзя Цынеўская — Беласток,
5. Іра Драздоўская — Агароднікі, Гайнаўскі павет.
8. Пятро Галёнка — Клодск, Вроцлаўскае ваяв.
9. Алесь Паўлючук — Плюцічы, Бельскі павет.
10. Янка Байсіцкі — Крушыняны, Сакольскі пав.

Узнагароды высылаем поштай.





Выпадак на Мінскай шашы.

Рыс. А. Чуркіна